

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 38(372)** **30 ВЕРАСНЯ 1998 г.**


## 75 гадоў Сяргею Грахоўскаму



25 верасня споўнілася 75 гадоў са дня нараджэння беларускага пісьменніка Сяргея Грахоўскага. Двойчы кіданы ў пекла ГУЛагу (у 1936 і 1949г.г.) Сяргей Грахоўскі не гледзячы ні на што застаўся беларусам, чалавекам і паэтам.

Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Сяргея Іванавіча з юбілеем і жадае плёну ў працы на карысць Беларусі.

## З днём нараджэння Ніл Сымонавіч



30 верасня 67 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.

На працягу васьмі гадоў Ніл Гілевіч быў бязьзменным старшынёй ТБМ і толькі стан здароўя змусіў яго папрасіцца на адпачынак.

Сакратарыят ТБМ віншуе Ніла Сымонавіча і жадае яму сілаў і моцы дзеля нашай агульнай справы: вольнай і квітнеючай Беларусі.

## Шаноўныя чытачы газеты "Наша слова"

Мушу вам паведаміць, што наступны нумар нашай газеты можа выйсці з спазненнем. Справа ў тым, што змяніўся рэжым узаемаадносін рэдакцыі газеты "Наша слова" і Лідскай друкарні. Увесь гэты час мы выходзілі на паперы друкарні. Кожны тыдзень мы плацілі за паперу і за друк. Зараз у друкарні ўзніклі нейкія праблемы і нам прапанавалі друкавацца на сваёй паперы. Паперы гэтай у нас няма. Друкарня папярэдзіла нас загадзя і мы шукалі паперу. Фактычна мы маем дамову на пастаўку, але папера завозіцца з Расеі і як удачна і ў тэрмін яна будзе завезена, не вядома. Акрамя таго, каб купіць паперу да канца года, трэба 60-70 мільёнаў рублёў. Такіх грошай таксама на сёння няма. Але мы зробім усё магчымае, каб затрымка, калі яна адбудзецца, закранула не больш аднаго нумара. Нам непрыемна пра гэта гаварыць, але з самага пачатку газета "Наша слова" была да канца шчырай з чытачом і казала пра самыя непрыемныя рэчы.

**Станіслаў Суднік**

## Пікет у абарону беларускай мовы

25 верасня Заводская рада ТБМ горада Менска з дапамогай сяброў ТБМ Ленінскага раёна правяла пікет каля станцыі метро "Партызанская". Акрамя дарослых у пікеце ўдзельнічала шмат вучняў 8-9 класаў. Яны трымалі плакаты: "Аляксандр Рыгоравіч, прыходзьце да нас у 9-А вывучаць беларускую мову", "Рукі прэч ад "Нашай Нівы", "Что не сделал русский штык, то доделает русская школа" (вядомае выказванне Мураўёва-Вешальніка).

У пікеце прынялі ўдзел кіраўнікі ТБМ Трусаў, Саламонаў, Гуркоў. Было распаўсюджана каля сотні асобнікаў "Нашага слова" і "Голаса беларуса". За час пікета ў ТБМ уступіла 7 чалавек, сярод іх некалькі студэнтаў Лінгва-гуманітарнага ўніверсітэта. Пад час пікета па дапамогу да кіраўніцтва ТБМ звярнулася маці хворага хлопчыка, які не можа хадзіць у школу і вымушаны вучыцца дома. Хлопчык хоча вучыцца па-беларуску, аднак у гарана яму адмаўляюцца выдаць беларускія падручнікі.

Міліцыя адносілася да пікетоўшчыкаў памяркоўна і, нават, аберагала ад п'яніц, за што сябры ТБМ выказваюць ёй шчырую падзяку.

## Зварот

**да Старшыні Саўміна Сяргея Лінга і Міністра адукацыі Васіля Стражава, прыняты 16.09.98г. на мітынгу, арганізаваным ТБМ імя Францішка Скарыны і Маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Хлоя" у падтрымку беларускамоўнай адукацыі і ідэі стварэння Беларускага Нацыянальнага Ўніверсітэта**

Мы, удзельнікі мітынгу патрабуем ад урада і Міністэрства адукацыі адкрыць у наступным навучальным годзе ў горадзе Менску Беларускі Нацыянальны Ўніверсітэт. На сённяшні дзень на Беларусі маецца больш за 100 дактароў і 400 кандыдатаў, якія хочуць і могуць выкладаць па-беларуску.

За гады апошняй хвалі Адраджэння (1991-1994 гг.) надрукавана дастатковая колькасць падручнікаў і даведачнай літаратуры па-беларуску. Таму ТБМ лічыць, што адмова ў стварэнні БНУ з'яўляецца з'явай палітычнай і не робіць гонару сённяшняй беларускай уладзе.

ТБМ паведамляе, што ў мінулым годзе было сабрана 7000 заяў за адкрыццё БНУ, якія збіраюцца і па-сённяшні дзень.

Мы спадзяемся, што ў XXI стагоддзі Беларусь будзе мець Вышэйшую Нацыянальную школу, як і большасць еўрапейскіх краін.

## Зварот

**да грамадскасці, прыняты 16.09.98г на мітынгу, арганізаваным ТБМ імя Францішка Скарыны і Маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Хлоя" у падтрымку беларускамоўнай адукацыі і ідэі стварэння Беларускага Нацыянальнага Ўніверсітэта**

Сёння на Беларусі склалася надзвычайнае становішча ў беларускамоўнай адукацыі. З году ў год змяншаецца колькасць беларускамоўных класаў і школ, плыняў у ВНУ. Прычым адбываецца тое пры наўпроставым удзеле ўладаў. Усё менш і менш першакласнікаў 1-га верасня ідзе ў беларускамоўныя класы. У сталіцы Беларусі г.Менску няма ні адной цалкам беларускамоўнай школы, ва ўсёй краіне няма ні адной беларускамоўнай ВНУ. Бацькі, якія маюць гарантаванае канстытуцыяй права абіраць для сваіх дзяцей мову навучання і жадаюць вучыць дзяцей на роднай мове, не могуць рэалізаваць гэтае права і на роднай зямлі адчуваюць сябе пасынкамі, выгнаннікамі. Ужо ў гэтым годзе мноства школ, якія мелі статус беларускамоўных, перавялі справаздачу на расейскую мову, 90-гадзінны курс беларускай мовы ў ВНУ зменшыўся на 30 гадзін, у НАН Беларусі ліквідаваны залік па беларускай мове для аспірантаў. Навісла пагроза знішчэння адзінага на Беларусі беларускамоўнага ліцэя, дзе навучаецца і выхоўваецца будучая эліта Беларусі.

Мы звяртаемся да бацькоў: не дапускайце пераводу вашых дзяцей на расейскую мову навучання, патрабуйце захавання вашых правоў — і з Вамі будуць лічыцца. Мы звяртаемся да выкладчыкаў, хто навучае па-беларуску: трымайцеся роднай мовы і Вы захаваеце аўтарытэт сярод вучняў і студэнтаў.

Мы звяртаемся да людзей Беларусі: годна ўстанем на абарону нацыянальнай беларускамоўнай адукацыі, дружна возьмемся за стварэнне Нацыянальнага Універсітэта, адкрыем яго — і нас будзе паважаць ўвесь свет.

***Даведка: МГА "Хлоя" — аб'яднанне студэнцкай моладзі, якое займаецца міжнароднымі ўзаемадзеяннямі ў галіне культуры. На акцыі 16.09.98г. сябры "Хлоі" ў якасці дружыннікаў забяспечвалі грамадскі парадак.***

***МГА "Хлоя" аказвае рэгулярную інфармацыйную падтрымку ТБМ. МГА "Хлоя" заснавана 3 месяцы таму, а ў жніўні 1998 г. была зарэгістравана ў Мінюсце.***

## І гэта таксама праца

Свіслацкая рада ТБМ Ленінскага раёна г. Менска выпісала часопісы "Бярозка" і "Вясёлка" для школ №2 і №15 г. Менска.

Рада ТБШ Фрунзенскага раёна г. Менска выпісала газету "Наша слова" для школаў №178 і №180, для Індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума, Тэхнікума лёгкай прамысловасці і бібліятэкі "Юнацтва"

## РЭХА

**Шаноўная рэдакцыя**

У № 35 "Нашага слова" быў надрукаваны адказ Алега Трусава на пытанне чытачкі "Як самастойна вывучыць беларускую мову?"

Але гутарковай мовай, мовай на якой адбываюцца стасункі аваалодаць сам-насам цяжка! Лепш усё рабіць талакой.

У Менску прыхільнікі Беларушчыны збіраюцца каб асвойваць мову, набываць веды па гісторыі, літаратуры, мастацтву, псіхалогіі і г.д.

Кантактны тэл. для жадаючых далучыцца : 235 - 80 - 96 працуе штопанядзелка з 18 да 19 гадзінаў.

***Сяргей Язерскі***

## Добры дзень, "Наша слова"

Ужо доўгі час з'яўляюся вашай шчырай прыхільніцай. Кожны нумар прачытваю ад першай да апошняй старонкі і з нецярплівасцю чакаю новай сустрэчы з Беларушчынай.

Больш за ўсё мне падабаюцца артыкулы змешчаныя пад рубрыкаю "Аповесць пра словы", але, нажаль, апошнім часам яны з'яўляюцца далёка не ў кожным нумары. Дарэчы, менавіта гэтая рубрыка і паслужыла нагодай для напісання гэтага ліста.

У мяне ёсць адна сяброўка. Яна мае вельмі рэдкае і прыгожае прозвішча - Ворвуль. Мая маці аднойчы выказала меркаванне, што прозвішча гэтае з'яўляецца іншаземным, замежным. Але бацька ўпэўнены ў тым, што Ворвуль - старажытны беларускі род, назву якому дало адно з забытых старaславянскіх слоў.

Магчыма "Наша слова" дапаможа раскрыць таямніцу паходжання прозвішча Ворвуль. Лічу, што і астатнім чытачам маёй любімай газеты будзе прыемна прачытаць чарговую старонку "Аповесці пра словы"

***Юля К., г. Ліда***

***Дарагая Юля.***

*Друк "Аповесці пра словы" быў часова прыпынены па чыста суб'ектыўных прычынах, як і друк "З чужой моўнай практыкі" прафесара Суяцко. Але счакаўшы гэтыя некалькі месяцаў мы пераканаліся,што як адна, так і другая рубрыкі чытачам патрэбныя. Вы не першыя звяртаецеся з просьбай аднавіць гэтыя рубрыкі, што мы і зробім, пачынаючы з аднаго з наступных нумароў. Што ж датычыць прозвішча Ворвуль, то яно, безумоўна, векавечна тутэйшае, ліцьвінскае, з тога ж разраду, што і Мураль, і Швакель, і Пенталь, і інш. Што б яно магло значыць? Адказ трэба шукаць у балцкіх мовах. У летувіскай мове мы знайходзім **varvulys -лядзяк, сасулька**. Але тое, што прозвішча паходзіць ад гэтага слова, малаверагодна. А вось ёсць слова **varvelis - ворвань**, гэта значыць - тлушч, здабыты з марскіх жывёл: кіта, цюленя ці рыбаў. Ворвань шырока ўжываўся ў гарбарстве, шавецтве, рымарстве для праттлушчвання шкураў і ботаў. Чалавек, які ўмеў добра таніць гэты тлушч, або прывозіў яго на продаж запраста мог атрымаць сваё прозвішча ад слова **ворвань**. у балцкім вымаўленні якое гучала, як **варвель, варвуль ці ворвуль**. Такое ўтварэнне аналагічнае ўтварэнню прозвішчаў ад прафесій: Каваль, Мураль(муляр) і г.д. Таму мае рацыю той, хто адносіць прозвішча Ворвуль да тутэйшых і старажытных, бо балцкім формам прозвішчаў не адно стагоддзе.*

Мой дом стаіць на скрыжаванні ста дарог,
Падпёршыся стагоддзямі, як воін пікай.
На скрыжаванні тым сам вецер-дуй ад лютасці прадрог,
Над скрыжаваннем тым груган вісіць, як лёс, вялікі.

Хай дом мой пасівеў, ды веры не згубіў,
Нязх сабе свіціца ўвесь, а сілы повен.
У доме, у маім ніколі з векаў не жылі рабы.
Калі ён і памрэ калі, то стоячы, як воін.

***1975 г. Іван Чыгрын.***





# I ўсё - такі, “сапожнік”

## Асцярожна! Новая філасофія.

*6 лютага 1998 г. газета “Звязда” змясціла артыкул Ефрасінні Андрэевай “Годзе беларусам у адзіноце заставацца народам без нацыянальнага ўніверсітэта!” і там жа ў рубрыцы “Першы водгук” разважанні супрацоўніка газеты Сяргея Шаўцова. Менавіта яны і вымусілі мяне ўзяцца за пяро. Але мой водгук, як і іншых чытачоў, не быў надрукаваны, а толькі пераказ, які з’явіўся 6 сакавіка пад агульным загалоўкам “Новая беларуская філасофія”. (!?) У пераказе Шаўцова я выглядаю графаманам, фанатыкам, злым, з нянавісцю, чалавекам. Не прамінуў ён магчымасць зноў убрыкнуць БНФ і Пазняка, прымяніўшы такі прыём: вымусіць апанента, чытача вымяраць не суразмернае. Маўляў, лепш бы яны займаліся нацыянальным адраджэннем і не лезлі ў палітыку, бо “вынікі бяспрэчныя: на лаве падсудных сядзяць школьнікі, дзеці, а Зянон Станіслававіч змагаецца за Беларусь здалёк”, і ў якога “чуецца аднолькавая інтанацыя як у генерала Макашова”. Знаёмая філасофія і не новая. Злосць, калі яна і ёсць у маім артыкуле, то парадзіў, справакаваў яе сам карэспандэнт “Звязды” здзеклівымі разважаннямі, якія ён апраўдвае ў “новай беларускай філасофіі” пад выглядам іроніі, а я, цёмны, не зразумеў. Атрымліваецца “цынічны чалавек, які аддае перавагу справам” (так ён сам аб сабе) на словах - за нацыянальны ўніверсітэт, беларускую мову, а на справе да чаго хіліць, правакуе — да калатэчы, ды спрэчак (дарэчы, подпадае пад адпаведны артыкул: распальванне ...), лянуецца нават заглянуць у слоўнік, каб пераканацца як гучыць па-расейску слова, “шавец”, мо тады і не выставіў бы мяне перад чытачамі “Звязды” яшчэ і невукам. У сувязі з гэтым, лічу неабходным даць поўны тэкст майго водгука “А мне не сорамна”, мо такім чынам праўда, здаровы сэнс па ўзнятай праблеме дойдуць да чытачоў згаданай газеты. Няхай чытачы зробяць выснову на колькі ён злы.*

“Мне не сорамна, мне крыўдна, балюча адчуваць сваю уласную слабасць пры вырашэнні такіх пытанняў, як стварэнне нацыянальнай вышэйшай школы, сярэдняй, спецыяльнай адукацыі, вяртання кольвечы аднятай роднай мовы народу. Мне сорамна за тых, хто праяўляе плебейскасць і лакейства перад людзьмі іншых нацыянальнасцяў, што прыехалі ў Беларусь і замест пацвельвання, насмешак і сарамленняў ў слабасці нацыянальнай свядомасці беларусаў, далучыліся дапамагчы пераадолець гэтую бяду. Схіляю сваю пасівелую галаву перад імі. Паверце, мне ўсёроўна расеец гэта ці хто іншы загаварыў па-беларуску. Ён гэтым самым проста выканаў свой грамадзянскі абавязак згодна адпаведнаму Закону, а не праявіў нейкую спагаду да беларуса, знявечанага расейскамоўнай акупацыяй.

Мне шкода намаганняў прафесара, доктара педагагічных навук Ефрасінні Андрэевай, якія ў чарговы раз разаб’юцца бы тое шкло аб чыноўніцкую абыякавасць. Я ведаю яе, як сумленнага навукоўца, прадстаўніка элітарнай часткі нашай інтэлігенцыі па ўдзелу ў рабоце рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На жаль, у краіне кіруюцца на ўзровень агульнанароднага інтэлекту, а не на узровень інтэлекту элітарнай часткі насельніцтва, таму і шкада яе намаганняў. А, як вядома, у бальніцы агульнабальнічная тэмпература хворых заўжды ў норме. Лічу справядлівымі яе перасцярогі наконт “лакальнага рэферэндуму адносна мовы навучання ў ВНУ”. Досвед ужо маем. Таму і пануе ў нас сістэма, па якой “кто как хаціт так і гаварыт”, акрэсленая калісці вядомым нашым палітыкам.

Сяргей Шаўцоў у рубрыцы “Першы водгук” прызнаўся, што яму вельмі сорамна за такі стан у Беларусі з нацыянальнай адукацыяй у ВНУ і пытаецца ці сорамна нам. Мо ён наконт сябе і мае нейкую рацыю, не вядома, а што наконт беларусаў, запытваць у іх, ці сорамна ім — гэта лічу не інтэлігентна, не культурна, нават абразліва. Гэта ж тое, што запытацца ў хворага: ці не сорамна яму хварэць, захварэўшага не па ўласнай віне. Даруй ім, Божа, бо не ведаюць што робяць — вось якія словы, словы Хрыста сёння адпавядаюць беларусам. I дзякуй Богу, што знаходзяцца сапраўды святыя людзі, якія спрабуюць данесці праўду да беларуса, разбудзіць яго сон нацыянальнай свядомасці.

Прадчуваю, водгукаў у “Звязду” будзе шмат, асабліва ад тых, хто паспрабуе выкарыстаць святую справу ў палітычных мэтах. Каб даць электарату чарговае падсілкаванне адмоўнай рэакцыі, да прыкладу, як гэта зрабіў Сяргей Шаўцоў да БНФ, які “вуснамі З.С.Пазняка нас вучыў... Расея ёсць “імперыя зла”, — схаластычна заўважае ён у сваім водгуку. Але пры чым тут БНФ, Пазняк да даўно вядомай праблемы. Пэўна, каб даказаць чытачу, што ідэя стварэння нацыянальнай навучальнай установы “зарадзілася ў расейскай жанчыны”, а “не прыйшла ў галаву беларусу”, ці там нейкаму дэпутату, прозвішча якога ён не называе. Вось, маўляў, ганьбяць расецаў за русіфікарства, а яны, бачыце, першыя ўзнімаюць пытанне беларусізацыі. Будзем шчырымі, ніколі ніхто не абвінавачваў расейцаў, расіянаў у антыбеларускіх паімкненнях. Абвінавачваюцца палітыкі, іх імперскасць, мясцовыя чыноўнікі — бюракраты розных нацыянальнасцяў і свае выраджэнцы, не жадаючыя зрабіць уласна над сабой адзіны прымус — вывучаць мову этнічных насельніцтва, назву якога носіць рэспубліка, тым самым зрабіць славуты ўчынак як гэта робіць Андрэева, Баршчэўскі, Трусаў і іншыя расейцы па паходжанню.

Кожны разумее апанента па меры сваёй адукаванасці. Адным здаецца (ці хацелася, каб здавалася) у артыкулах, выступленнях З.Пазняка нянавісць да расецаў і Расеі, што яна “ёсць імперыя зла”. Але гэта скажоўвае ўяўленне. Раю С. Шаўцову больш уважліва прачытаць артыкул Зянона Станіслававіча “О русском империолизме и его опасностии” (Нар.газета № 10, ад 15-17 студзеня 1994 г.). А да ўзнятай тэмы вельмі будзе трапным прывесці яго цытату з навуковага, вельмі змястоўнага артыкула “Двуязычие и бюрократизм” (З.Пазняк. “Сапраўднае аблічча” ТВЦ. “Паліфакт” Менск 1992г. ст. 52):

“Вспоминаются 1920-е годы. Когда, например Горы-Горицкий земледельческий институт был переобразован в Беларусскую сельскохозяйственную академию, туда пригласили ленинградскую профессуру, ибо своих кадров не хватало. Ленинградские учёные быстро изучили белорусский язык и приступили к чтению лекций по-белорусски. Тогда даже мыслей не возникало, что может быть иначе, ведь это была союзная республика, где все преподование в вузах, всё делопроизводство велось на белорусском языке. Разве мог тогда образованный русский интелегент позволить себе не уважать, не знать языка народа, который пригласил его к себе ... В 1920-е годы еще не сложилавсь эта особая, отравляюшая общество психология бюрократических отношений, делаюшая из образования не средство культуры, а орудие бюракратизма...!”

А вось на цытаце аб “цікавай праекцыі “ Сяргея Шаўцова трэба спыніцца асобна:

“Згодна з ёй (цікавая праекцыя — М.Л.) любы народ, які размаўляе на роднай мове, ёсць народ нацыяналістычны і рускія, і татары, і карэйцы ..., — карацей усе без выключэння. Так што беларусы з’яўляюцца, можа быць, адзіным у свеце ... народам, які пазбаўлены жудасцяў нацыяналізму. Я рады за нас ...”

I чаму за мяне парадаваўся Шаўцоў? Таму што загаварыўшы па-беларуску абавязкова знойдзецца, хто скажа: “Бэнээфавец, нахватались белорусских слов, гаварыце нармальным языком”, што на рабоце не маю свайго роднага асяроддзя, а тыя з беларускамоўных, хто ўладкоўваецца на прадпрыемства ў хуткім часе пачынае гаварыць, як усе, “нармальным языком” — на крэалізаванай мове — трасянцы (“Кто как хаціт так і гаварыт”), што, звярнуўшыся да міліцыянта, ці дзяржаўнага служачага я не атрымаю адказ на роднай мове. Радуйцеся, радуйцеся за мяне, што мае дзеці сталі расейскамоўнымі, а ўсе продкі не былі імі. Пэўна многім як Шаўцову радасна за мяне і шмат яшчэ за каго, каму не радасна, а сумна і балюча адчуваць генацыд па моўнай прыкмеце і сваю слабасць, бязвыхаднасць лёсу, які знаходзіцца ў руках іншых — большасці і вырашаецца д’яблава - шэльмаўскі - простым галасаваннем, ці па-дыктатарску. Дзе тое права выбара мовы навучання. Для расейскамоўных яно існуе. А для беларускамоўных? Дзе прадоўжыць навучанне, калі выбралі мову навучання беларускую. Дзе тыя спецшколы, тэхнікумы, ПТВ, не гаворачы ўжо аб ВНУ. Хто выбірае мову навучання ў школах-інтэрнатах за дзяцей сіротаў і чаму там выбрана расейская? Ну няўжо так цяжка зразумець, што дзяржаўнае двухмоўе вядзе да падвоенных затратаў. Атрымліваецца па-Шаўцову, гэта “жудасны нацыяналізм”, калі паступова мова зойме свой пачэсны стан 1920-х гадоў, пры якім жудаснага нацыяналізму не нарадзілася. А зараз? Ці не ёсць ён па адносінах да беларсукамоўных.

Цікавая праекцыя, праўда?

Ці не адносіцца да ўзроўню выхаванасці, на маю думку, глумленне з назвамі плошчаў, вуліц. Хто адкажа грунтоўна, навукова чаму англійская плошча Вікторыя, эстонская вуліца Выру, польская Звычэнства — будзе гучаць на ўсіх мовах аднолькава, а ў нас плошча Перамогі — Победы і г.д.. Вось яшчэ з прозвішчамі і назвамі гарадоў не дайшлі да такога. Але пры такім стане можна чакаць, што ў хуткасці Шаўцова зробяць Сапожниковым, а горад Шклоў — Стекловым.

Новая беларуская філасофія — гэта абвінавачванне ў фанатызме (ужо не ў нацыяналізме), у антыталетарнасці.

Як я і прадчуваў, намаганні Е.Андрэевай разбіліся аб пячорнасць довадаў чыноўніцтва. Вось яны: няма сэнсу ствараць яшчэ адну нацыянальную ВНУ, ёсць жа БДУ. У кожнай ВНУ па жаданні можна ствараць беларускую плынь, але стварэнне двух плыняў — гэта дадатковыя сродкі. (Як бачым, дзяржава эканоміць на беларускасці). “Увогуле, ідэя стварэння нацыянальнага ўніверсітэта надуманая”, — заявіў карэспандэнту газеты “Звязда” начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства асветы Валеры Дабранскі.

У канцы хочацца запытаць у сп.Шаўцова: ну і што ён атрымаў ад свайго водгука і манеры павучаць і выступаць у ролі памяркоўнага талерантнага беларуса, каго праняло “націсканне на балючыя стрункі”, колькі дало лекаў да “запушчанай хваробы” (запушчаная хвароба — слабая нац.свядомасць народа — М.Л.). А вось наконт “хірургічнага ўмяшання” ён мае рацыю. Таму і не буду вінаваціць яго ў экстрэмізме як ён гэта робіць у адрас мяне, БНФ, Пазняка.

*Мікола Лавіцкі, тэрміст Менскага аўтамабільнага завода, старшыня рады Таварыства беларускай мовы Заводскага раёна г.Менска.*

# Деля чаго Астапенка хваліць царкоўна-славянскую мову?

13 жніўня, 1998 г.

Вельмі паважаная Рэдакцыйная Рада газеты “Наша слова”:

Ветліва прашу надрукаваць у Вашай газеце наступныя заўвагі да артукула Анатоля Астапенкі “Беларускамоўнаму набажэнству быць!” у нумары 12 (346) “Нашага слова” за 1 красавіка, 1998 году.

Аўтар артыкула папераджае, што крытыкаваць, у даным выпадку праваслаўную Царкву, грэх, бо святое пісьмо кажа: “Не крытыкуйце, бо і вас будуць крытыкаваць”. Значыць грэх крытыкаваць тых, што зачыняюць у Беларусі беларускія школы, што зневажаюць і нішчаць у Беларусі беларускую мову і культуру, што нішчаць беларускую нацыю. Але! Мы крытыкуем і нас за гэта “крытыкуюць” гумовымі палкамі і турмамі!

Далей аўтар услаўляе “дадзеную Богам” царкоўнаславянскую мову.

— А беларуская мова, не Богам нам дадзена ??? !!!

Расказвае аўтар артукула аб важнасці царкоўнаславянскай мовы ў праваслаўным багаслужэнні.

— А Грэцыя — Візантыя калыска праваслаўя — таксама ўжывае ў багалужэнні царкоўна - славянскую мову? Адкажа аўтар, што не, бо Грэцыя — Візантыя не славянская. Яны ў праваслаўных багаслужбах ужываюць грэцкую мову.

Даказваючы важнасць, магутнасць царкоўнаславянскай мовы, гаворка ў артыкуле ідзе аб тысячагадовай яе традыцыі, аб тамах праваслаўнай літаратуры, паэзіі ў царкоўна-славянскай мове; аб тым, што ўсе праваслаўныя цэрквы ўжываюць у багаслужбах царкоўнаславянскую мову: у Расеі, у Беларусі, Украіне, Польшчы. I ў Расеі, дзеля важнасці царкоўна-славянскай мовы, праваслаўная царква не пераходзіць у богаслужбах на расейскую мову!

— Расейскай мове не пагражае гібель. Расейскай мовай гаворыць не толькі ўся Расея, а і уся Беларусь, і палова (усходняя) Украіна. Нашто ім у царкве пераходзіць на расейскую мову?! Наадварот, царкоўна-славянская мова ёсць адной з прыладаў, адным з мэтадаў русіфікацыі іншых славянскіх народаў, што знаходзяцца пад гегемоніяй Масквы. Масква, праз царкву, услаўляе царкоўнаславянскую мову ды Кірылу і Мефодыя і заклікае ставіць ім у Беларусі манументы! Чаму? А таму, што яны дапамагаюць Маскве загарнуць усіх славян пад свае маскоўскія крылы, каб, як Каліноўскі кажа, перакруціць іх на маскалёў. Дай праваслаўным цэрквам служыць на іхніх нацыянальных мовах, тады Маскве будзе цяжэй зрусіфікаваць ды знішчыць іх. Кожнаму гэта зразумела.

Аўтар артыкула не бачыць, ці не хоча бачыць, што за магутнай праслаўленай ім царкоўна-славянскай мовай стаіць, і трымае яе на павадку, яшчэ магутнейшая русіфікацыйная імперыялістычная палітыка Масквы.

Але, праўда, усе праваслаўныя цэрквы, што знаходзяцца пад гегемоніяй Масквы, у багаслужбах ужываюць толькі царкоўна-славянскую мову. А што дзеецца ў іншых? Прыехала я ў Канаду, у Таронта, улетку 1949 года. Прыйшла святая нядзелька, трэба ж ісці ў царкву ... Даведваемся, ці ёсць у Таронта праваслаўныя цэрквы? Даюць нам адрасы расейскае і украінскае. Ідзём з сяброўкай ува ўкраінскую царкву Св.Уладзіміра на Батэрст- вуліцы. Царква, відаць, новая, вялікая. У царкве шмат людзей. Святар служыць св. Літургію на украінскай мове — не на царкоўна-славянскай, моцны хор пяе прыгожа вылучна ўсё паўкраінску, і вернікі пасля царквы, прыслухоўваемся, гутараць між собску па ўкраінску. Вось, сапраўдная ўкраінская царква! Але ж яна Аўтакефальная! Масква да яе не мае ніякага дачынення. I Мітрапаліт Мікалай ў Таронта служыць вылучна на беларускай мове, ён жа Мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і да яго Масква таксама не мае ніякага дачынення. I ў Аўтакефальных цэрквах, услаўляная аўтарам артыкула царкоўна-славянская мова, траціць сваё “надзвычайнае” значэнне, бо ў іх і русіфікацыя траціць сваю сілу.

Аўтар, сябра Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны ўслаўляе мову Кірылы і Мяфодыя, услаўляе і верна ідзе ўслед за імі !, а не ідзе за мовай Францішка Скарыны, а не ідзе за запаветамі Францішка Скарыны, які даў свайму беларускаму народу Біблію ў ягонай роднай мове, каб ён “чытаючы (Біблію) разумеў”. Дзякуючы доктару Францішку Скарыне беларускі народ другі пасля чэскага сярод славянскіх народаў атрымаў Біблію ў сваёй роднай мове. Было гэта ў Вялікім Княстве Літоўскім. А пераклаў ён Святое пісьмо на беларускую мову таму, што яго “Міласцівы Бог з таго языка на свет пусціў”. Францішак Скарына першы заклікаў нас шанаваць сваю родную мову. Францішак Скарына заклікае нас да патрыятызму, “Каб мы ўсялякага труду і скарбаў для паспалітага дабра і Айчыны свае не шкадавалі”, бо так, як звяры, птушкі, рыбы і пчолы знаюць і трымаюцца месцаў сваіх, так і “людзі дзе суць зрадзіліся, к таму месцу вялікую й ласку маюць”.

Слава, Богам дадзенай нам, Беларускай Мове!

I ўслед за запаветамі Францішка Скарыны!

*Раіса Жук-Грышкевіч з Канады, а родам з Пружанаў*

# РАДАСЦЬ ТВОРЦАЎ АГУЛЬНАЯ. А ЯК ЗВЕДАЦЬ ЯШЧЭ АДНУ?

Колькі гадоў доўжылася надзея Мар'яна Баяровіча, шматгадовага дырэктара Лідскага музычнага вучылішча, які не так даўно з-за пенсіённага ўзросту перадаў сваю пасаду вартаму пераемніку, на выданне кнігі. І вось так жаданая мара збылася. У маіх руках шырокафарматны нотны зборнік "Беларускія народныя песні і танцы" ў апрацоўцы для баяна, акардэона і двухраднага храматычнага гармоніка. Кніга пабачыла свет у выдавецтве "Беларускі кнігазбор", якое выдае 200-томную "Залатую бібліятэку Беларусі".

Аб змесце зборніка гаворыць яго назва. Якое багацце народных песень і танцаў сабраў і падрыхтаваў для выдання кнігі Мар'ян Баяровіч! Гэта папулярныя сярод нашага люду "На вуліцы мокра", "Кума, мая кумачка", "Бульба", "Мікіта" і вядома ж, "Лявоніха". І менш вядомыя, але не менш чуллівыя і мудрыя "На гарэ дубочак", "Замуж пайсці - трэба знаць", "Прыляцелі гусі", "Калыханка", "Салавейку маленькі", "Сваток", "А ў садзе рэчанька" ... Радасць і гора, каханне і здрада, прыстойнасць і подласць, міласць да любай Айчыны ды туга па ёй у чыжым краі шчымліва кранаюць душу чытача. Многія народныя мелодыі ў зборніку паўтараюцца, але яны выкананы рознымі аўтарамі і адрозніваюцца ступенню цяжкасці іх выканання. Напрыклад, вядомая песня "Чаму ж мне не пець" даецца ў апрацоўцы Т. Салютарынскай, Г.Сямёнавай, В.Мотавай, А.Чынякова, Д.Камінскага, В.Алёхіна, Ф.Бушуева. Словам, выбірайце, музыкі, калі ласка, творы па густу і радуйце імі ўдзячнага слухача. Дарэчы, складальнік незвычайнай кнігі выступіў і ў ролі аўтара: яму належыць "Фантазія на беларускую тэму".

Фальклор, як творчасць народа — гэта той грунт, на якім заснавана яго духоўнае жыццё. Гэта сапраўды яго скарбніца. І мы маем падставы ганарыцца тым, што ёсць мноства выдатных даследванняў аб словах і музычных асаблівасцях беларускіх народных песень. Як адзначае ў прадмове да згаданага зборніка мастацтвазнаўца Элеанора Тумас, у нас таксама багата апрацовак такіх твораў для голаса ці хору. А вось апрацовак беларускіх народных песень для народных інструментаў няшмат. Тым больш бясцэнным з'уляецца падрыхтаванае М.Баяровічам і выдадзенае ў "Беларускім кнігазборы" выданне. Да месца падкрэсліць, першае такога кшталту ў Беларусі і краінах СНД.

Так, выхаду зборніка



Мар'ян Баяровіч

можна парадавацца многім. І адзначыць поспех рупліўца беларускай культуры Мар'яна Баяровіча. А што Мар'ян Андрэевіч такі чалавек, сведчыць і наступны факт. У маладыя гады, будучы выкладчыкам Гарадзенскага музычна-педагагічнага вучылішча, М.Баяровіч у час канікулаў адпраўляўся ў вандроўкі па розных раёнах Гарадзеншчыны, дабіраўся ў самыя глухія вёскі і запісваў там народныя песні, слухаў іх у выкананні старэйшых людзей і маладых. А ў вёсцы, як вядома, вечная праца, бясконцая занятасць. Асабліва летам. Ды юны Манюсь разам са сваімі сябрамі па вандроўках Лявонам Баразной будучым мастаком, на жаль, пакінуўшым наш свет, і Сяргеем Талочкам, збіральнікам беларускіх прыказак ды прымавак, знаходзіў у сялян разуменне.

На аснове тых экспедыцый Мар'ян Баяровіч падрыхтаваў яшчэ адно ўнікальнае выданне-кнігу "170 беларускіх народных песень Гарадзеншчыны". Колькі гадоў назад я знаёміўся з творам, які стаў вынікам амаль паўвекавой працы Мар'яна Андрэевіча. Па-першае, мяне ўразіла геаграфія фальклорных запісаў. Замасцяны, Куляшы, Матылі, вёскі з далёкага і глухога закутка (на памежжы з Летувою) былога Васілішкаўскага, зараз Шчучынскага раёна. Такія глухія паселішчы пазначаны з былога Радунскага, цяпер Воранаўскага раёна. І там малады руплівец запісваў у старажылаў у аўтэнтычным выглядзе словы і мелодыі беларускіх народных песень, як і на Ашмяншчыне, Смаргоншчыне, Астравеччыне і ў іншых месцах. І нават у некаторых вёсках колішняга Эйшышкаўскага раёна Летувы.

Няма патрэбы гаварыць ці пісаць многа слоў пра культурна-гістарычнае, ды і навуковае значэнне падрыхтаванага выдання. Агульнавядома, не толькі носьбіты фальклору, а і вёскі, у якіх яны жылі, выміраюць і знікаюць з карты вобласці. Таму так важна захаваць для нашых нашчадкаў фальклорна-песенную спадчыну народа. Але як выдаць у наш нялепшы час кнігу з народнымі песнямі Гарадзеншчыны? У свой час падтрымку складальніку ўнікальнага зборніка абяцалі ў Мінкультуры, Саюзе кампазітараў, Фондзе культуры ... Але ўсё ўпіраецца ў няхватку грошай. Выдавецтва "Беларускі кнігазбор" (вялікі дзякуй яго кіраўнікам за згаданую кнігу) фінансавых магчымасцяў для выдання яшчэ адной не мае.




Як жа знайсці выйсце? Мажліва, выданне можна ажыццявіць, разам аб'яднаўшы хай і невялікія сродкі раёнаў, на тэрыторыі якіх запісаны песні, прадпрыемстваў і ўстаноў розных форм уласнасці, ахвяраванні асобных грамадзян. У зборніку, тысячны тыраж якога ў красавіцкіх цэнах складаў 102 мільёны рублёў, ёсць думка адзначыць яго фундатараў, назваўшы кожнага з іх. А потым сказаць добрае слова аб прыхільніках роднай культуры ў сродках масавай інфармацыі.

Гэтая прапанова знайшла станоўчы водгук у грамадскасці. На жаль, на згаданую прапазіцыю пакуль не адрэгавалі ўладныя структуры памянёных раёнаў. Добра было б, каб каардынатарам у ажыццяўленні такой ідэі выступіла ўпраўленне культуры Гарадзенскага аблвыканкама.

І апошняе. Кніга "170 беларускіх народных песень Гарадзеншчыны" патрэбна не толькі музычным школам і вучылішчам, установам культуры. Такі зборнік стаў бы цудоўным падарункам для дэлегацый з іншых мясцін, што наведваюцца ў нашыя раёны, як і для асобных грамадзян. З гэтай нагоды прыгадаю напрыканцы такі факт. Некалькі гадоў назад варшаўскі літаратар Земавіт Фядэцкі, які перад вайной жыў на Лідчыне, выдаў у польскай сталіцы кнігу з тэкстамі і нотамі беларсускіх народных песень, запісаных ім у вёсцы Феліксава. Выданне гэта завезлі ў Менск і Гародню, і яно хутка знікла з паліц кнігарняў. Я тады купіў пару кніг З.Фядэцкага, як кажуць, пра запас. І, ведаце, каго абрадаваў імі як падарункамі? Завітаўшага да мяне мінулым летам беластоцкага журналіста Міхася Хмялеўскага. І сціплую сялянку-пенсіянерку з-пад Скрыбаўцаў, якая безвынікова з'ездзіла па кнігу з песнямі земляхкоў у Гародню.

Дык як не радавацца, што ў наш тлумны і незразумелы час добрая кніга і песня маюць цану!

**Аляксандр Жалкоўскі, г. Ліда**

# Новым ворагам Беларушчыны

У 13-ым нумары газеты беларусаў Летувы "Рунь" (травень сёлета) на літаратурнай старонцы змешчаны сярод іншых твораў верш Ёзаса Рыбікаўскага "Чаго вам хочацца, панове?". Верш, з якім таленавіты на мой погляд паэт з Летувы, звяртаецца да новых ворагаў Беларушчыны, якіх, на праўдзе жаль, сёння ў Беларусі значна болей, чымсьці прыяцеляў нашай гаротнай мовы. Чытачы "Нашага слова" у Беларусі, мяркую, не знаёмы са зместам гэтага верша, таму я прапаную яго вам у перадруку з газеты "Рунь".


РУНЬ газэта беларусаў Літвы
II Зьезд беларусаў Балтыі
Царністы шлях да незалежнасьці

*Ёзас Рыбікаўскас*

Чаго вам хочацца, панове?
(новым ворагам Беларушчыны)

У час надзеі і змагання
Звяртаўся так Пясняр да вас ...
На гэта грознае пытанне
Калі пачуем мы адказ?

Народ наш зведаў крыўд нямала,
Быў доўгі шлях да Калымы ...
І наша мова ледзь гучала
Ў гады чырвонае чумы.

У дзяржаве незалежнай, новай
Пачаў быў родны дух лунаць ...
А вам зноў хочацца, панове,
Чужыя песенькі спяваць?

Чаму вы зганьбілі Пагоню?
Зняважылі святы наш сьцяг?
Мо вашы "мудрыя" законы —
Жандарскай дзейнасці працяг?

Але ж мінулі дні жандараў
НКВД і ГПУ ...
Ня стане хутка чорных хмараў,
Зарос бальшак на Калыму!

Пагоню й мову адным махам
Вы хочаце спыніць, разбіць? ..
Пад бел-чырвона-белым сцягам
Жыў беларус і будзе жыць!

У гады свайго скалечанага юнацтва я быў асабіста знаёмы з Ёзасам Рыбікаўскасам, жыхаром невялікага летувіскага горада Віўкавішкіса, які захапляўся беларускай моваЙ, самастойна ёю авалодаў да такога ўзроўню, што пачаў пісаць на ёй вершы: некаторыя з іх у свой час друкаваліся ў маладзёвай газеце "Чырвоная змена" ...

Ёзас неаднаразова наведваў Беларусь, пабываў не толькі ў сталіцы краіны Менску, але і на Палессі, у Століне, дзе ў свой час мне давялося працаваць...

Жыццёвыя шляхі разышліся, і вось амаль праз 25 гадоў я зусім выпадкова натрапіў на "след" свайго сябра юнацтва з Летувы, і як?! Дзякуючы газеце "Рунь", якая змясціла верш Ёзаса.

Вельмі добры верш, я нават праслязіўся, калі скончыў яго чытаць: мне б аптымізм Ёзаса !!! Але тое, што пад "бел-чырвона-белым сцягам жыў беларус і будзе жыць" гучыць як заклік да ўсіх нас, беларусаў, няма сумніву! У маёй Ізяслаўскай кватэры на самым відным месцы ўсе 15 гадоў, што я ў ёй жыву, тры рэчы, а менавіта: партрэт Янкі Купалы, бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня"! З імі я ніколі не развітваўся і не развітаюся ўжо ніколі, дзе б не давялося жыць: тут, на Украіне, ці ў якой іншай, больш заможнай, дзяржаве ...

Хочацца са старонак "Нашага слова" падзякаваць спадару Ёзасу Рыбікаўскасу за адданасць беларускай мове, за яе шанаванне, за абарону беларуса і ягоных нацыянальных сімвалаў: герба "Пагоня", бел-чырвона-белага сцяга, роднай мовы.

Labai aciu!
Лабай ачю! Вялікі дзякуй!

*З павагай і найлепшымі пажаданнямі да спадара Ёзаса Рыбікаўскаса і ўсіх чытачоў газеты "Наша слова" спяшаецца з Украіны філолаг Пятрусь Капчык, г.Ізяслаў, 14.08.98г.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная рада:
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 28. 09. 98 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2069.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.